Кумпаны: TYGODNIOWY PROGRAM TELEWIZYJNY

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 12 (525) Год XI 20 САКАВІКА 1966 г. Цана 60 гр.



*Прадвесне.* Фота: В. Рудчык

## У пошуках неспакойных

Былі Грамніцы. Каля царквы ў Кляшчэлях стаялі фуры. Сонныя коні пырскалі, а гаспадары заводзілі суседскія гутаркі каля гасподы і ў ёй. Двух маладых хлопцаў, патупіўшы вочы на наскі сваіх ботаў, якімі дзюбалі абледзянелы снег, размаўлялі пра жаніцьбу. «Яшчэ не жэнішся?» «Не-е-е», — разцягнута і няўпэўнена заспяваў другі.

У гасподзе панавала атмасфера вышэйшых таямніц. Малады са старым цалаваліся, пяшчотна называючы сябе брыдкім словам. Пілося піва: халоднае — з цукрам, без цукру; цёплае — з цукрам, без цукру. Выбар вялікі.

У тутэйшай гасподзе ёсць звычай, што чарку выпіць перад гадзінай 16-тай не можна. Але нідзе аб гэтым не напісана. Можна спадцішка выпіць, купленую ў краме і прынесеную ў кішэні. А якая розніца, што з вялікага куфля? На месца трапіць. А ў эстэтыку піцця алкаголю ў нас ніхто не думае гуляць.

Нават нябрыдка выпісаная вывеска павучае: «Хочаш мець чысціню, захавай яе сам». Але ж скажыце, хто ў нас чытае вывескі, калі не мусіць? І ў сувязі з тым сталыя наведвальнікі кляшчэлеўскай гасподы не клапоцяцца пра захаванне чысціні ў ёй.

Мае роздумы перарваў Славэк (так усе яго завуць) Місеюк, які ў Кляшчэлях вядзе бібліятэку, дэкламатарскі гурток у сельскагаспадарчай школе, драмгурток, быў і ёсць прыкладам тых (кляшчэлеўцаў) неспакойных, якіх я шукаю. Ці таксама на піўцо ў гасподу? Не, па мяне.

### ПІВА З ЦУКРАМ ЦІ БЕЗ ЦУКРУ

Я ўжо з кампетэнтным правадніком іду ў пошукі. Чаго? Чагосьці, што б гаварыла пра новыя Кляшчэлі, пра бурлівае жыццё. Працуе тут ад двух год грамадскі цэнтр культуры, да якога належаць перад усім ГРН, ГС і ПОМ. Кожны з іх павінен нешта ўнесці ў супольную справу. ГРН, як казаў сакратар яе, купіла гітару і перкусію для некалькіасабовага калектыву, якім ад красавіка будзе кіраваць Фердынанд Зажыцкі, сцягнуты спецыяліст з Сямяціч. ПОМ дае яму памяшканне і працу.

Роля кляшчэлеўскага ГС-у — асобная гісторыя. Калі пару год таму будаваўся магазін, вуглавыя дзверы да яго ад галоўнай вуліцы мелі ўводзіць чалавека ў мілую па-сучаснаму абсталяваную кавярню. Да яе адкрыцця не дайшло. І так рассыпаліся надзея і вера ў ГС. Неадкрытую кавярню заменена на склад мэблі, як можна сцвердзіць праз шпаркі недакладна замаляваных вокнаў.

На цяжкае пытанне «чаму», прэзас ГС Мікалай Младзяноўскі адказвае: «Мы хацелі і ПЗГС у Гайнаўцы хацеў, каб у тым месцы была кавярня. Інакш распарадзілася ваяводства — ВЗГС». Паіхняму там мае быць продаж мэблі і матораў. Скок не малы. А кавярня? Ад яе прэзас не адрокся. У будынку самога ГС пакой, які меў быць яго кабінетам, аддаў на буфетнае памяшканне будучай кавярні, а большую залу пабач на самую кавярню са столікамі. Паказвае мне ўжо звезеныя крэслы, падрыхтаваныя схоўкі. Будзе кавярня вось-вось! Прэзас носіцца з думкай утварыць пры гэтым культурным пункце хор. Традыцыі ў Кляшчэлях ёсць. Сам некалі спяваў у хоры.

(Працяг на стар. 3)

АЛЯКСЕЙ ПЫСІН

## Новыя вершы

*

На лугах зіма туманы сушыць,
У садзе злёт паўночных снігіроў.
Над пагостам чорны воран кружыць,
Той, што помніць трох багатыроў.
Першабытны іней. Снег нягалы.
Ў белых правадах стаіўся час:
Быццам людзі ў космас не лятали,
Быццам сам іду у першы клас. —
Вось вярнуся з школы — без абеда
Пабягу да птушак пад абрыў:
Кружыць воран — папрашу суседа,
Каб з берданкі ворана забіў...

*

Ад бяды — да салёнай вады,
Ад салёнай — да воблачнай пены.
Самалёты і паязды
Прасвяцілі наскрозь, як рэнтгены.
І прапісана мне цішыня,
Сталы роздум нясу — замест леку.
Адчуваю на выкаце дня
Зябкі подых наступнага веку.
Промні першыя ўбачыць гара
І пастух, што ўзнімаецца з статкам.
Я хацеў бы, нібы ля кастра,
Пастаяць перад новым пачаткам.

*

Помняцца барозны і світанні,
Гліна і пясок ля асакі.
Хтосьці з нас жыве на ўзносах даўніх,
Падбірае з поля каласкі.
Ды пакуль аддаць нямое цела
І на ўсё глядзець ужо здаля, —
Трэба б зразумець — чаго хацела
І чакала добрая зямля,
Трэба б зразумець яе трывогу,
Прачытаць хмурынкі, што ляглі...
Узнімайце цвёрдую аблоку,
Дзён астатніх цяжкія плугі!

*

Лямпачка — паўночнае свяціла,
Спелы німб і цень.
Ноч касмічная не пагасіла
Незакатны дзень.
Свеціць камень, свеціць дом сасновы,
Свеціць даўні след,
Свецяць думы, свецяць тыя словы,
Што імкнуцца ў свет.

*

Непазбежнасць адчуўшы, маўкліва,
Непрыкметна знікаюць сланы.
Свет жыве. Пабялела маліна.
Валам коціць суботнік лясны.

*

Лес да макавак гулам спавіты,
Тоне ў ім непадслуханы крок.
Між дубоў муравей цягавіты
Ношу ў трыста пудоў павалок.

*

Цябе, як пушчу, адкрываю
У зменах часу і святла.
То ты прамая, то крывая,
То немая, то гаваркая,
То ты — расінка, то — смала.
Калі ты блізка — так малюю,
Адыйдзешся — і пазнаю
Бездапаможную, малую,
Цябе былінку палявую,
Былінку горкую маю.

*

Без паклону, без «да пабачэння»
Ветракі бясшумна адплылі.
Мы спазналі жорсткасць прыцягнення
І адчулі ўстойлівасць зямлі.
Каб саломку ўсюды падсцілалі,
То напэўна б жолуд не прарос.
Дрэвамі, цыбатымі сцяблами
Лета ўзносіцца ў смугу нябёс.
Камень. Тугаплаўкі пласт пад плугам,
Гострых камянёў знямелы рух.
Пажаданне ёсць: хай будзе пухам...
Што ж — яшчэ праверым гэты пух.

## Польшча, якой не ведаем

Пад такім супольным загалоўкам ад пачатку лютага г. г. «Жыцце літэрацке» друкуе цыкл рэпартажаў Ежы Лёвеля. Цыкл прысвечаны нацыянальным меншасцям у Польшчы і ахоплівае шырокі круг праблемаў нацыянальнага пытання ў нашай краіне.

У нумары за 27 лютага надрукаваны абшырны рэпартаж п. з. «Беларусы». У ім Е. Лёвель піша аб сучасным жыцці беларусаў на Беласточчыне.

Ініцыятыва «Жыцця літэрацкага» і Ежы Лёвеля заслугоўвае як найбольшай падтрымкі: аб жыцці нацыянальных меншасцей рэдка піша наш цэнтральны друк, тым больш у такіх маштабах, як гэта зрабіла «Жыцце літэрацке». Чакаем на іншыя публікацыі. (рл)

# ВОЛЬФ МЕСІНГ і яго „магічная" сіла

Вольф Месінг — мацнейшы тэлепат нашых дзён. Ніжэй падаем шчыпту фактаў з жыцця гэтага цікавага чалавека.

Месніг нарадзіўся непадалёк ад Варшавы ў небагатай яўрэйскай сям'і. Упершыню яго тэлепатычныя здольнасці праявіліся нечакана ў наступных абставінах.

Кінуўшы яўрэйскую рэлігійную школу — іешыбот, у якую аддалі яго бацькі, ён адправіўся «куды вочы панясуць». Ён пайшоў на станцыю чыгункі, сеў у вагон першага трапіўшагася поезда. Гэты поезд ехаў у Берлін. Білета ў хлопчыка, безумоўна, не было. І таму ў паўцёмным вагоне трэцяга класа ён залез у самае цёмнае месца — пад лаўку.

У належны час з'явіўся кандуктар. Ён даволі бесцырымонна будзіў пасажыраў і правяраў білеты. Не забыўся ён заглядаць і пад лаўкі.

І вось вусаты твар схіліўся над Вольфам. Прамень святла ад пераноснага ліхтара ўдарыў яму ў вочы. «Білет»? — спытаў кандуктар. Хлопчык схапіў першы трапіўшы кавалачак цукерачнай паперы і падаў яго кандуктару. І гледзячы яму ў твар, усёй сілай страсці захацеў, каб той прыняў гэтую пустую паперу за білет.

Кандуктар неяк дзіўна пакруціў яе ў руках, шчоўкнуў жалезнымі сківіцамі і аддаў Месінгу.

— Чаму ж ты, хлопчык, з білетам едзеш пад лаўкай? — спытаў ён. — Садзіся, ёсць жа месцы.

Пасля доўгага бадзяння па вялікіх гарадах Месінг трапіў у паноптыкум — відовішчнае прадпрыемства разлічанае на шырокую публіку. У паноптыкуме Месінг дэманстраваў свае каталептычныя здольнасці. Ён умеў самаадвольна пагружаць сябе на некалькі дзён у стан штучнай «смерці» — каталепсіі. У гэтым стане чалавек страчвае ўсякую адчувальнасць, не рэагуе на знешнія раздражэнні. Цела яго застаецца зусім нерухомае. пульс амаль не адчуваецца, сэрца амаль не б'ецца, мускулы дрантвеюць і падобны ён зусім на трупа.

У вольныя ад работы ў паноптыкуме гадзіны Вольф развіваў свае тэлепатычныя здольнасці — уменне чытаць чужыя думкі. Школай яму служыў адзін з берлінскіх гароднінных базараў. Чырвонашчокія сялянкі гадзінамі сядзелі над горамі агуркоў, думаючы сабе аб сваіх дамашніх справах. Каб пераканацца, ці думкі іх адчувае правільна, Месінг любіў падыходзіць да сялянкі і гаварыць нешта ў тым сэнсе:

— Не клапаціцеся, зяць ваш вернецца.

Трэба бачыць здзіўленне і перапалох гандлярак.

Калі Месінг падрос, ён пачаў выступаць са сваімі тэлепатычнымі здольнасцямі ў цырках і эстрадах, аб'язджаючы са сваімі славутымі нумарамі амаль увесь свет. Яму знаёмымі былі многія з вялікіх людзей нашага стагоддзя: Фройд, Эйнштайн і іншыя, дэманстраваў ён перад імі неаднойчы сваё тэлепатычнае ўменне.

У 1939 годзе Месінг быў у Польшчы. У Варшаўскім гета загінуў яго бацька і браты. Месінг скрываўся. Фашысты вызначылі за яго галаву дзвесце тысяч нямецкіх марак. Аднойчы ўночы затрымаў яго на вуліцы Варшавы нямецкі афіцэр. Адбыўся кароткі дыялог:

— Хто ты?

— Я мастак...

— Не, ты Месінг... Ты вораг нашага фюрэра...

Нечакана афіцэр ударыў Месінга па твары.

Месінг выплюнуў на снег шэсць зубоў.

Месінга пасадзілі ў карцэр паліцэйскага ўчастка. Тэлепат сабраў усе свае сілы і прымусіў паліцэйскіх сабрацца ў яго камеры. Затым ён выйшаў з яе і апусціў цяжкую жалезную завалу звонку, пакідаючы паліцэйскіх замкнутымі ў камеры.

Ён пайшоў на ўсход. Ішоў начамі. Плаціў вялікія грошы тым, хто захацеў падвезці яго на павозцы. Аднойчы цёмнай лістападаўскай ноччу пераправіўся праз Буг і знайшоўся ў Краіне Саветаў.

Калі пачалася савецка-нямецкая вайна, Месінг усе свае сілы і здольнасці прысвяціў барацьбе з фашыстамі. Ён падарыў Савецкай Арміі два баявыя самалёты, набытыя на яго асабістыя зберажэнні. Ён тысячы разоў выступаў перад байцамі, якія адыходзілі на фронт заграваючы іх да барацьбы з фашызмам.

Цяпер Месінгу 65 гадоў. Ён жыве ў Маскве, часта выязджае ў розныя гарады Савецкага Саюза дэманструючы свае надзвычайныя здольнасці, а таксама супрацоўнічае з вучонымі, якія вывучаюць тэлепатыю.

(а-п)

# Праважалі яго ў салдаты

Весела плывуць гукі гармоніка ў Іванавай хаце. А што ж гэта ў яго за ўрачыстасць? Мо сына жэніць, а мо гэта імяніны? Не, дарагія. Гэта ж заўтра яго сын ідзе ў салдаты. А звычай такі цягнецца ад вякоў, што калі сын ідзе служыць радзіме, то бацькі выпраўляюць вечарыну. Такую, можна сказаць, развітальную «учту». Сын з бацькамі запрасілі ўсю моладзь і сваіх сваякоў. Хлопцы абавязкова ў чорных касцюмах і ў белых кашулях, дзяўчаты таксама па-святочнаму апранутыя. І ўсе пачаткова размаўляюць паціху. Пасля сядаюць за стол і, вядома, паднімаюць першую чарку за шчасце маладога салдата. Праз нейкі час паплылі першыя словы песні. Спачатку спявалі паціху, потым песня як бы ажыла, паднялася вышэй, а потым вырвалася за сцены хаты. А словы песні былі знаёмыя «Там у чыстым полі, бяроза стаяла. Маці свайго сына з дому выпраўляла. Выпраўляла з дому дый з новай хаты. Дый з новай хаты ў няшчасны салдаты». Так было. І ўсё згаджалася. Была і новая хата ў Івана, і маці, якая выпраўляла свайго сына ў салдаты. Маці. пачуўшы словы песні, заплакала. То ж яна гадавала свайго Пецьку, а цяпер аддае ў салдаты. А што будзе далей? Як ён адслужыць? А мо што станецца яму? «Ай Божа, мой Божа»! — прашаптала ціха мама.

Плакала таксама і яшчэ адна асоба. Не ведаеце хто? А гэта ж нарачоная Пецькі. прыгажуня Зоська. Думала галубка, як гэта яна будзе жыць без Пецькі!

«Я ж так яго кахаю», — і сваё гора хацела ўтапіць у слязах, а яны беглі як хуткая вада і стрымаць іх не было спосабу. А моладзь, убачыўшы Зоську, заспявала галасней і кожны падумаў: вось дык заспявалі, закранулі за жывое месца. А Грышка, не шкадуючы гармоніка, граў весела і бадзёра, так што ногі хадзілі самі. Нават старэйшыя цёткі варушылі нагамі, хаця і не пад рытм твіста. А дзе ж ім да гэтай моладзі. Моладзь гуляла да самай раніцы. Яна не зважала на стому, на сон. А раніцай усе гурбой правялі Пецю на паўстанак. Правялі ў салдаты. Няхай служыць. «А ты, Зося, не бядуй, — суцяшае яе Валя. — Калі ён цябе любіць, дачакаешся напэўна, а вернецца, тады возьме за жонку». А цягнік, як бы ў адказ, доўга і працяжна засвістаў. «Так, чакаць доўга, Валечка. І хто яго ведае, як дачакаць яго? А мо разлюбіць?» Такія думкі кружыліся ў Зоські, яна іх гаварыла ўголас. «Дзе там ён разлюбіць. Бачыла, як ён на цябе глядзеў, ды і пацалаваў. І то пацалаваў пры ўсіх». «Так, так пацалаваў», — прыпаміналa Зоська і затулілася, каб вецер не дуў на яе губы. «Зоська, не бядуй. Кахай яго шчыра і чакай пісьма, а час зробіць сваё». Так суцяшала Валя бедную Зосю, якая не магла стрымаць сваіх слёз. Калі рушыў цягнік, заспявалі хлопцы аб бярозе ў полі і Пецьку салдаце.

Грыша Мароз
Стараберазова

# ШЛЯХАМ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ на БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

**Саколка.** Аб гэтай назве даведваемся толькі з дакументаў ад 1524 года, у якіх гаворыцца аб тым, што Зыгмунд I надаў каралеўскі двор Сакалда каралеве Боне. Каля гэтага двара паўстала вёска Сакалда, у якой Зыгмунд I пабудаваў касцёл. У самай Саколцы, якая знаходзілася на пагранiччы лясоў Букштэльскай пушчы, жылі гадоўцы сокалаў патрэбных да паляванняў. Адсюль і паходзіць назва Саколкі і шмат іншых мясцовасцей. Аб паляўнічай мінуўшчыне гэтых аколіц сведчаць таксама такія назвы, як: Сакаляны, Лісія Норы, Баброўнікі, Страж, Зубжыца, Казловы Лук.

У 1608 годзе Зыгмунд III Саколцы надаў гарадское права. А ў 1712 годзе Старое Мяста — Саколку разбілі на дзве часткі: Новую Саколку і Старыя Багушэ.

У другой палове XVIII стагоддзя, калі гродзенскае староства атрымаў Антоні Тызенгаўз (1765—1781), які імкнуўся да індустрыялізацыі аколіцы, паднеслася Саколка. За яго часоў прыехалі сюды рамеснікі і пасяліліся ў пабудаваных дамах — майстэрнях. Існавала тут страшэнная эксплуатацыя. Гараджан прымушалі да працы ў мануфактурах, а сялян пазбаўлялі зямельнай спадчыны. І таму ў час паўстання Касцюшкі ў 1794 годзе за аружжа ўзялася некалькі соцен жыхараў Саколкі. Сам бурмістр гэтага горада ў заадрасаваным пісьме да Касцюшкі скардзўся на паншчынны прыгнёт гараджан. Барацьба не аказалася дарэмнай. Шляхта вымушана была ўступіць. Аб зменах можа сведчыць вельмі знамянальны факт. Вось гарадскі сеймік аб'явіў Саколку сталіцай усяе Сакольшчыны. Гаворыць гэта аб аслабленні пазіцый шляхты і ўзросце значэння горада і гараджан. Памешчыкі перапалоханыя здарэннямі паўстання Касцюшкі вымушаны былі адступіць. Гарадскі сеймік выдаў шмат пастаноў. Можна тут прывесці адну з іх, якая ўвайшла ў жыццё. Была гэта пастанова, якая тычылася тытула саноўнікаў сакольскай зямлі званымі сакольскімі стольнікамі.

У 1807 г. Саколка знайшлася ў Беластоцкай вобласці. У хуткім часе ўтварылася тут стралковая школа (ляснічая). Інспектарам яе быў Валеры Врублеўскі, адзін з галоўных кіраўнікоў студзеньскага паўстання, генерал Парыжскай Камуны і сааўтар I Інтэрнацыянала.

Гаворачы аб гаспадарчым жыцці ў XIX стагоддзі, трэба ўспомніць, што ў Саколцы развівалася сельская гаспадарка і дробная прамысловасць. У горадзе знаходзіўся вялікі гарнізон царскіх войск, які налічваў 2700 салдатаў.

У міжваенных гадах Саколка славілася з рынкаў коней і быдла, а таксама гарбарнай прамысловасці. Падобна як іншыя гарады так і Саколка ў перыяд II сусветнай вайны была разбурана. Зараз мае яна шмат новых сучасных жыллёвых кварталаў, водаправоды. бальніцы, пачатковыя тры школы, ліцэй і школу будаўлянага рамяства, дом культуры. У горадзе ёсць таксама некалькі прадпрыемстваў.

Б. НІКІЦЮК

# Беларускія прыказкі

*Адзін з сошкай, а дзесяць з ложкай.*
*Багатаму чорт дзяцей калыша.*
*Воран ворану вока не выдзеўбе.*
*Гладзіць, ды процiў шэрсці.*
*Да Бога высока, да цара далёка.*

# УВАГА, СЯЛЯНЕ! ВЫРАЗАЦЬ, ЗБЕРАГЧЫ!

Цяпер усе сяляне ведаюць, што без штучных угнаенняў не дабіцца ім высокага ўраджаю. Ёсць чатыры асноўныя групы штучных угнаенняў: азотавыя, сімвал **«N»**, фосфарныя, сімвал — **«P»** (або $P_2O_5$), патасовыя (каліевыя), сімвал — **«K»** (або $K_2O$) і вапнавая, сімвал — **«CaO»**. Таму ў сельскагаспадарчай літаратуры часта ўжываецца назвы **«NPK»**, калі трэба акрэсліць адпаведны састаў штучных угнаенняў неабходных для правідловага развіцця расліны. Спецыялісты падлічылі запатрабаванні паасобных сельскагаспадарчых культур на штучныя ўгнаенні. Унізе табліца, якая прыводзіць вынікі гэтых падлікаў.

| Расліна | з 1-га га расліна бярэ (у кг) | | | | Тады дае плён (у цэнтнерах) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Азот | Фосфар $P_2O_5$ | Потас $K_2O$ | Вапна CaO | Зерне корані бульбы | Салома лісце |
| Жыта азімае | 60 | 30 | 60 | 20 | 20 | 40 |
| Пшаніца азімая | 70 | 30 | 50 | 10—15 | 24 | 45 |
| Ячмень | 50 | 25 | 55 | 30 | 24 | 36 |
| Авёс | 65 | 30 | 70 | 18—20 | 24 | 40 |
| Кукуруза | 107 | 50 | 127 | 60 | 45 | 80 |
| Бульба | 90 | 40 | 160 | 40 | 200 | 80 |
| Цукр. буракі | 150 | 60 | 175 | 25—50 | 400 | 200 |
| Карм. буракі | 110 | 50 | 250 | 20—40 | 500 | 130 |
| Рапак азімы | 114 | 58 | 130 | 100—150 | 24 | 67 |
| Лён | 45 | 29 | 57 | 15 | 6 | 40 |
| Гарох | 120 | 33 | 80 | 56 | 20 | 30 |
| Жоўты лубін | 120 | 40 | 66 | 30 | 16 | 40 |
| Канюш. чырв. | 100 | 30 | 75 | 94 | 50¹) | — |
| Люцэрна | 230 | 52 | 145 | 130—250 | 320¹) | 80¹) |
| Сырадэля | 106 | 47 | 161 | 45 | 220²) | 50¹) |
| Сена | 75 | 30 | 80 | 14 | 45¹) | — |
| Цыбуля | 80 | 40 | 100 | 60 | 300 | — |
| Памідоры | 100 | 20 | 120 | 100 | 300 | — |
| Морква | 95 | 30 | 150 | 120 | 100 | — |

¹) сена, ²) зялёная маса

Дозы азоту, фосфару, потасу і вапны падаюцца тут **у чыста хімічным саставе.** У продажы няма хімічна чыстых штучных угнаенняў. Трэба тады пералічыць. Справа не складаная. Кожны гаспадар можа такі пералік правесці самастойна. Возьмем бульбу. Яна патрабуе: 90 кг азоту, 40 кг фосфару, 160 кг потасу і 40 кг вапны.

У магазіне, прыкладна, купілі мы: **салетшак, двуфосфат і патасовую соль.** Глядзім на мяшкі. Там піша, што салетшак 25%-тавы, двуфосфат — 26-тавы, патасовая соль — 38 — 42%-авая. Гэта значыць, што: у адным цэнтнеры **салетшаку** знаходзіцца **25 кг азоту** (N), двуфосфат мае **26 кг фосфару** (P), а патасовая **соль 38—42 кг потасу** (K). Пералічваем цяпер на гектар поля. Просты падлік паказвае, што салетшаку на адзін га бульбы трэба падсыпаць 3,6 цэнтнера, двуфосфату — 1,5 цэнтнера, а солі патасовай — 4 цэнтнеры. Падобна лічым колькасць вапны.

І на канец прапануем дакладна прыгледзецца табліцы справа. Яна вам вельмі спатрэбіцца ў час сяўбы і перахоўвання штучных угнаенняў.

Збіраецеся ў поле сеяць штучныя ўгнаенні. У вас ёсць, скажам, **салітра амановая, суперфосфат і патасовая соль.** Хацелі б вы аблегчыць сабе працу і **за адзін раз рассеяць гэтыя ўгнаенні,** замест бегаць па тым самым полі тры разы. Глядзіце на табліцу. Яна паказвае, што ўсе гэтыя штучныя ўгнаенні можна з сабой змешваць толькі непасрэдна перад сяўбой

В. Р.

# ШТУЧНЫЯ УГНАЕННІ

| Nawozy | | 1 Saletra amonowa | 2 Saletra wapniowa | 3 Saletra sodowa | 4 Saletrzak | 5 Siarczan amonu | 6 Azotniak | 7 Mocznik | 8 Superfosfat | 9 Supertomasyna | 10 Dwufosfat | 11 Amofos | 12 Sól potasowa | 13 Kainit | 14 Siarczan potasu |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Saletra amonowa | 1 | | X | X | X | X | ■ | ■ | X | ■ | X | X | X | X | X |
| Saletra wapniowa | 2 | X | | X | X | ■ | X | ■ | ■ | X | X | X | X | X | X |
| Saletra sodowa | 3 | X | X | | X | X | X | ■ | X | X | X | | X | X | |
| Saletrzak | 4 | X | X | X | | X | ■ | ■ | ■ | ■ | X | ■ | X | X | X |
| Siarczan amonu | 5 | X | ■ | X | X | | ■ | X | | ■ | X | ■ | | | |
| Azotniak | 6 | ■ | X | X | ■ | ■ | | X | ■ | | ■ | | X | X | X |
| Mocznik | 7 | ■ | ■ | ■ | ■ | X | X | | ■ | X | | X | X | ■ | |
| Superfosfat | 8 | X | ■ | X | ■ | | ■ | ■ | | ■ | X | ■ | | | |
| Supertomasyna | 9 | ■ | X | X | ■ | ■ | | X | ■ | | ■ | | X | X | X |
| Dwufosfat | 10 | X | X | X | X | X | ■ | | / | ■ | | X | X | X | X |
| Amofos | 11 | X | X | | ■ | ■ | | X | ■ | | X | | X | X | X |
| Sól potasowa | 12 | X | X | X | X | | X | X | | X | X | X | | | |
| Kainit | 13 | X | X | X | X | | X | ■ | | X | X | X | | | |
| Siarczan potasu | 14 | X | X | | X | | X | | | X | X | X | | | |

□ → Угнаенні, якія можна змешваць заўсёды.

☒ → Угнаенні, якія можна змешваць толькі непасрэдна перад сяўбой

■ → Угнаенні, якіх нельга змешваць.






БЕЗ СЛОЎ

ВЯСЁЛАЯ БІЯГРАФІЯ

## ЖАРТ

Дымяць дзядзькі цыгаркамі, —
А дым — аж да ..ябёс...
Пытаю, хто з іх будзе
Мікола Куранос.

— Які, браток, Мікола?
— Ды Ганнін абармот!
— А, мусіць, той, якога
Ўбрыкнуў заўчора кот...

Ляжыць цяпер ён, браце, —
Ці выжыве, ці не...
— Э, гэта, брат, не жарты,
Як кот — ды убрыкне!

— Шкада, быў хвацкі хлопец...
У даўнія часы
Я помню нават лысаму
Ён выдраў валасы.

— А смелы быў Мікола:
Калі двухстволка з ім —
Сам-насам з мухай стрэцца
Не страшыўся зусім.

— Любіў ён добра выпіць.
Разыдзецца, крычыць:
«На ўсю капейку квасу,
На ўсю прашу наліць!».

— Як чысціню любіў ён!
І мыўся, дзе стаяў,
Ручнік заўсёды быў з ім —
Ад кажуха рукаў.

— Таксама жонка Ганна
Руплівая ў яго...
— Каб паглядзець, дарэчы,
Ці паліцца у печы, —
Запальвае агонь.

— Мікола жыў багата...
— Чаго ў яго няма —
Няма вады, лапаты,
Табакі й той няма...

І тут падняўся дзядзька
Ва ўвесь магутны рост:
— А хай іх стопчуць качкі —
Я й ёсць той Куранос...

ЯНКА СІПАКОЎ

### АНТОСЬ РЭДЗЬКА ПІША Ў ГП

**У сувязі з аб'яўленым ГП БГКТ зборам экспанатаў у рэгіянальны музей у Белавежы, прыходзяць у ГП пісьмы ад насельніцтва. Адно з іх друкуем.**

*ДАРАГОЕ ГАЛОЎНАЕ ТАВАРЫСТВА!*

*Дайшлі да мяне чуткі, што збіраеце ўсё непрыгоднае і непатрэбнае ў жыцці.*

*Я склонны да беларускай культуры і люблю свой радзімы язык. Найбольш люблю тады, як крыху язык гладчэй ходзіць і любіў калісь свой народны напітак — самагонку, якую па-народнаму завуць чымаргес. Ды і цяпер люблю, толькі забароненая яна нашай дэмакратыяй, а ўжо за гэтую беларускую справу ў астрозе другі раз сядзець не хочацца, таму пішу, што ў мяне е добры экспанат, які хачу даць на памяць вам, бо мне ўжо ён не патрэбны.*

*Прашу паспяшайцеся хутчэй, пакуль міліцыі яшчэ не было, бо прападзе за нішто мой экспанат, то есць апарат гнаць самагонку, які можа быць цікавым экспанатам для нашых наследнікаў.*

*Жду атвета як салавей лета.*

*АНТОСЬ РЭДЗЬКА*

### ДАГАВАРЫЛІСЯ

— Добры дзень, суседзе!

— А нішто сабе — дажджу няма.

— Ты што гэта робіш?

— Дровы шчапаю.

— Мані, мані!.. Я ж бачу што ты вяроўкі з кудзелі ўеш.

— З чаго ж я буду віць, з твайго языка?

— І ў цябе ж язык ладны, не праглынеш.

— Во, табе толькі дай!

— Калі ж ты мне што даваў? Калі?

— Ты мяне не калі, дык я цябе не зачаплю.

— Табе ж і чапляцца не трэба, вунь як да вяроўкі прысох.

— Як ты — да жонкі.

— Не да тваёй жа.

— А чорт цябе ведае, чаго ты да мяне ў дварышча прыйшоў!..

Да жонак і чорта дагаварыліся, а трасца з хваробаю — яшчэ наперадзе.

### ДОБРЫ ЗАКАЗЧЫК

Шавец аддаючы заказчыку новыя боты, сказаў:

— Тыдні са два вашы боты крыху ціснуць будуць. Не крыўдуйце.

— Э! Нічога — пацярплю. Два тыдні я яшчэ і ў старых пахаджу, а новыя няхай пастаяць.

### ВАЖКІ ДОКАЗ

Па вуліцы ішоў чалавек. За ім крочыў міліцыянер.

Раптам міліцыянер знайшоў кашалёк. Ён дагнаў таго чалавека і спытаў

— Грамадзянін, гэта вы згубілі кашалёк?

Чалавек спачатку разгубіўся, а потым і кажа:

— Так, так, гэта мой кашалёк.

— А чым вы дакажаце, што ваш? — пацікавіўся міліцыянер.

— А паглядзіце, якая вялікая дзірка ў маёй кішэні, — знайшоўся той.

### НЯЎЖО АГЛУХ?

— Разумееце, не можам прыняць вашага сына ў музычную школу.

— А чаму?

— Слыху няма.

— А божачкі ж! Няўжо аглух? Учора ж ён яшчэ ўсё чуў.

### АБЫ ПРЫЧЫНА

— Чаму ты кожны дзень у лазню ходзіш?

— Бо жонка сказала: «Ну, калі пасля лазні і вып'еш-нічога страшнага. А то смокчаш гарэлку без усялякай прычыны».

### ПРЫВЁЎ ПРЫКЛАД

Ля вогнішча паляўнічыя, як звычайна, гаварылі пра сваіх сабак. Адзін паляўнічы захацеў пахваліцца і сказаў:

— Бываюць такія разумныя сабакі, што нават за самога гаспадара разумнейшыя!

— Ну, гэта ты перагнуў, браце. — запярэчыў другі. — Такіх сабак не бывае.

— Як не бывае!? У мяне самога такі сабака.

### НЕ ВЫЙДЗЕ

**Чатырохгадовы хлопчык вельмі дрэнна захоўваўся. Маці прыгразіла, што заменяе яго на добрага, паслухмянага хлопчыка.**

**— Нічога не выйдзе, — сказаў хлопчык.**

**— Чаму?**

**— Які дурань будзе мяняць добрае дзіця на кепскае?**




*Кліна клінам выбіваюць, чалавека — чалавекам.*

*

*Каню даюць вудзіла ў зубы, каб ведаў свае законы.*

*

*Кветкі на бляшаных вянках маюць надта непрыемны запах.*

*

*Забыўся як страляць з пісталета і забіў сябе.*

*

*Як Дзімітрава Паўліна пачала есці хлеб з макам, то так разрабілася, што ў дзверы не ўлазіць.*




Умоўны рэфлекс.




Слухаючы, што раяць табе людзі, калі-небудзь слухай і самога сябе.

### ВЫПАДКОВАЯ СУСТРЭЧА

Часам сапраўдная любоў пачынаецца выпадковай сустрэчай. Аднойчы каза выпадкова сустрэла... ваўка.

Пазбягайце выпадковых сустрэч.

## УСЯЧЫНА



*Коцікі.*

Фота В. Рудчык.

*Кур'ёзы*

### ВАЖНА ДЛЯ МУЖОЎ

У Нью-Йорку ўжо год дзейнічае пункт пад назваю «Бюро ўпіканняў». Гэтая назва не зусім адпавядае характару працы гэтага пункта. Заданнем бюро з'яўляецца абарона перад жончынымі авантурамі тых мужоў, якім здарылася «загубіцца» ў горадзе і якія баяцца вяртацца дамоў. Пункт адкрыты цэлыя суткі. У ім вельмі многа ўсялякіх падарункаў, якія найбольш любяць разгневаныя жанчыны: кветкі, ласункі, духі і г.д.

Нешчаслівы муж, якога чакае ў хаце авантура, можа тут купіць падарунак і атрымаць добрую раду на тэму змягчэння гневу жонкі. Гэты пункт цешыцца вялікім поспехам; у гэтым годзе адкрые ён свае філіялы ў многіх амерыканскіх гарадах. (а-ліў)

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе *Любы Сліжэўскай* і *Валі Жэшка* з Беластока змяшчаем беларускую песню п. з.

## БЯРОЗКА



*Ты выйшла на ўскраіну вёскі,*
*Дзе песні салоўка пяе,*
*А вецер, нібыта ў бярозкі,*
*Расчэсвае косы твае.*

*А вецер вясковы ўздыхае*
*І шэпча высокай траве,*
*Што той, каго ты пакахаеш,*
*Шчаслівым сябе назаве.*

*Яму не хачу я зайздросціць,*
*Я ўспомню сваю маладосць:*
*Дзяўчына такой прыгажосці*
*У кожнага ў памяці ёсць.*

*Гады прабушуюць над вёскай,*
*Над намі вятры прашумяць,*
*А ты ненаглядная бярозкай,*
*На ўзгорачку будзеш стаяць.*